№ 7 ліпень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

**Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі**
**Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны**

**Ніякае багацце людзей не бывае даражэйшым за іх родную мову.**

*Якуб Колас*

## У НУМАРЫ:






# НАШЫ НАВІНЫ

***

У ліпені адзначылі свой паўвекавы юбілей актыўныя сябры ТБМ, гарачыя прыхільнікі беларускай мовы і культуры, багатыя на творчыя памкненні і здабыткі асобы - народны майстар каваль Юрась Фурс і настаўніца гісторыі СШ №4 Тамара Храпавіцкая. Сябры Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы зычаць юбілярам моцнага здароўя і добрага плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны і беларушчыны.

***

15 ліпеня ў пастаўскай дзіцячай бібліятэцы адбылася імпрэза "А колькі б дзе ні вандраваў...", прысвечаная 113 гадавіне з дня нараджэння паэта Уладзіміра Дубоўкі. Рэпартаж пра гэта мерапрыемства друкуецца ў гэтым нумары "Шыпшыны".

***

18 ліпеня сябры ТБМ правялі экскурсію у Паставах па месцах, якія звязаны з трагедыяй яўрэйскага насельніцтва нашага краю, якое ў часы фашысцкай акупацыі было спачатку сагнана ў гета, а потым расстраляна. Экскурсію праводзіла Тамара Храпавіцкая.

***

Мясцовыя краязнаўцы разам з сябрамі ТБМ пачалі збор матэрыялаў для серыі даведнікаў пра выдатных асобаў Пастаўшчыны. Плануецца выдаць кніжачкі пра навукоўцаў, святароў, палітычных дзеячаў і гістарычных асоб, краязнаўцаў, літаратараў, мастакоў, медыкаў. Пакуль што праект знаходзіцца ў працэсе распрацоўкі, шукаецца аптымальная канцэпцыя падачы матэрыялаў пра людзей, якія дасягнулі пэўных поспехаў у нейкай сферы дзейнасці.

***

На тэсціраванні па беларускай мове выпускніца СШ №2 Марыя Кісялёва атрымала 100 балаў!

Пастаўская арганізацыя ТБМ віншуе Машу, яе бацькоў і настаўніцу Тамару Захарэвіч з выдатным вынікам!

# ВЕРШ НУМАРА

***Рыгор Барадулін***

**БЫЦЬ**

**Быць Беларусам —**
**Гэта значыць,**
**Свайго ні гуку не забыць,**
**Усё чужое перайначыць,**
**Каб Беларусі вечнай быць!**
**Быць Беларусам —**
**Гэта значыць,**
**Вясёла з сумнай долі кпіць,**
**Да Бога сцежку верай значыць,**
**Нагбом з карца надзеі піць.**
**Быць Беларусам —**
**Гэта значыць,**
**За родны край згараць на дым,**
**Па-беларуску чуць і бачыць**
**На гэтым свеце і на тым.**

## ЯК ЗНІШЧАЮЦЬ МОВУ
**(з нядаўняга мінулага)**

**"Народная воля" ў 1997 годзе друкуе ліст зь Бярозаўкі: "Калі ласка, надрукуйце мой ліст, няхай свет пасмяецца над тым, што ў нас творыцца. У першы дзень верасня мая дачка-сямікласніца прыходзіць са школы. Я пытаюся: "Ну, як справы?" "Нармальна, — адказвае, — толькі ўсе прадметы будуць выкладацца на рускай мове". "Ну, няўжо ўсе?" — здзіўляюся. Тады дачка дадае: "Не, урокі па беларускай мове і літаратуры будуць весціся на беларускай..." "А летась?" — міжволі запыталася я і адразу ж успомніла — год таму толькі руская мова і літаратура былі на рускай мове. Вось як знішчаюць беларускую мову ў нас у Бярозаўцы".**

# “А КОЛЬКІ Б ДЗЕ НІ ВАНДРАВАЎ...”

15 ліпеня споўнілася 113 гадоў з дня нараджэння нашага знакамітага земляка — паэта Уладзіміра Дубоўкі. Дата не круглая. Але бібліятэкары Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі не маглі абмінуць яе ўвагай. Па-першае, таму, што ўстанова носіць імя пісьменніка, а па-другое — нам усім трэба больш ведаць пра тых, хто раней жыў, тварыў на нашай зямлі і аддаў сваё жыццё дзеля Бацькаўшчыны.



Народзіны Дубоўкі бібліятэкары вырашылі адзначыць літаратурна-музычнай імпрэзай, якую назвалі радком аднаго з вершаў паэта «А колькі б дзе ні вандраваў...» Мерапрыемства пачалі на вуліцы, ля дзвярэй бібліятэкі, з флэшмобу «Не спяшайцеся дахаты, пакаштуйце лепш гарбаты». Кожнага, хто праходзіў міма, частавалі адмысловым напоем, настоеным на зёлках, і запрашалі да сябе на імпрэзу. Яна адбылася ўжо ў чытальнай зале, дзе сабраліся аматары паэзіі і творчасці Уладзіміра Дубоўкі самага рознага ўзросту — ад школьнікаў да пенсіянераў.

Спачатку прысутныя паслухалі верш Алеся Гарбуля, прысвечаны паэту-земляку. А затым вядучая мерапрыемства бібліятэкар Л. Ф. Сяменас расказала пра жыццёвы шлях пісьменніка, які быў вельмі няпростым, і яго творчасць. Дубоўку давялося зведаць і радасць зносін з лепшымі прадстаўнікамі беларускай і рускай літаратуры першай паловы мінулага стагоддзя, і горыч выгнання — 28 гадоў свайго жыцця ён правёў у лагерах і ссылках. Нягледзячы на тое, што большая яго частка прайшла ўдалечыні ад Радзімы, у Расіі, паэт цудоўна ведаў матчыну мову, на якой пісаў вершы і апавяданні, перакладаў на яе творы Байрана,Гётэ, Міцкевіча, Шэкспіра. Менавіта яго пераклады шэкспіраўскіх санетаў прызнаны самымі дасканалымі.

З’яўляючыся адным з арганізатараў першых беларускіх літаратурных аб’яднанняў “Маладняк» і «Узвышша», падтрымліваў пачынаючых пісьменнікаў і вельмі перажываў, калі родная мова аказалася пад уціскам.

Да апошніх дзён жыцця У. Дубоўка верыў у тое, што насенне беларускасці, якое ён так старанна «сеяў» сярод землякоў сваёй творчасцю, абавязкова прарасце ў душах іх нашчадкаў і Беларусь адродзіцца духоўна.

Радзімай пісьменніка з’яўляецца вёска Агароднікі — менавіта там ён з’явіўся на свет. Але сам Дубоўка сваімі роднымі мясцінамі лічыў Манькавічы, дзе пражыў да 14 гадоў, пакуль разам з бацькамі не пераехаў у Маскву, бо пачалася Першая сусветная вайна і праз вёску праходзіла лінія фронту.

Пра гісторыю Манькавічаў, якія ў той час





былі даволі вялікім населеным пунктам, іх колішніх уладальнікаў і пабудовы ўдзельнікам імпрэзы расказаў паэт і краязнаўца І. М. Пракаповіч. У 2004 годзе Ігар Міхайлавіч разам са сваімі вучаніцамі Насцяй Вансовіч і Ірынай Заяц нават напісаў кнігу пра паселішча, якую прадэманстраваў прысутным. А ўбачыць, як яно выглядала ў пачатку XX стагоддзя, прысутныя маглі на чорна-белых фотаздымках на сцяне чытальнай залы. Таксама быў паказаны невялікі відэафільм «Манькавічы».




Літаратурную частку імпрэзы прадоўжылі актыўныя чытачкі дзіцячай бібліятэкі Кацярына Манкевіч, Віялета Сяменас і Лізавета Худзякова, якія прадэкламавалі вершы паэта.

А затым настала чарга музыкі. Юныя скрыпачкі Юліяна Янцэвіч і Ірына Дубовік выканалі некалькі класічных твораў, а таксама напісаных Юліянай, атрымаўшы заслужаныя апладысменты. Завяршаючы мерапрыемства, Л. Ф. Сяменас параіла ўсім прачытаць кнігу Уладзіміра Дубоўкі «Пялёсткі», у якой апавядаецца пра мясціны дзяцінства паэта, яго бацькоў і людзей, што жылі побач.

***Алена ШАПАВАЛАВА***
***(газета "Пастаўскі край")***

**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ПРА ВАЙНУ 1812 ГОДА

Як паведамляла "Шыпшына", у мінскім выдавецтве "Кнігазбор" выйшла ў свет кніга "1812. Вайна на Пастаўшчыне". Яе аўтарамі з'яўляюцца мясцовыя краязнаўцы Ігар Пракаповіч і Вадзім Шышко. З нагоды выдання кнігі ў раённым краязнаўчым музеі адбылася яе прэзентацыя. На ёй прысутнічалі настаўнікі, супрацоўнікі музея, актывісты Пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, аматары гісторыі. З прывітальным словам выступіла дырэктар музея Раіса Курачэнка. Некалькі слоў пра аўтараў і іх творчасць сказала супрацоўніца дзіцячай бібліятэкі, сябар ТБМ Людміла Сяменас. Потым слова ўзялі аўтары, якія грунтоўна распавялі пра асноўныя ідэі,



падыходы і факты з новай кнігі. Іх выступленні суправаджаліся камп"ютарнай прэзентацыяй, якая дазваляла прысутным наглядна пазнаёміцца з тымі падзеямі, што адбываліся ў час вайны 1812 года на Пастаўшчыне.



На імпрэзе прысутнічаў настаўнік гісторыі з Гуты Мікалай Арэх, аўтар кнігі "Вёсачкі над Заражанкай", якая таксама нядаўна выйшла ў свет. У сваім выступленні ён расказаў пра тое, як збіраўся матэрыял да гэтага выдання, якія цікавыя факты і знаходкі ўдалося выявіць у час пошукаў.

Пасля прэзентацыі Вадзім Шышко, супрацоўнік музея, пазнаёміў прысутных з экспазіцыяй, якая была прысвечана вайне 1812 года.

***Наталля Пракаповіч***

## ЭКСКУРСІЯ ПА СЛЯДОХ ЯЎРЭЯЎ

Гэтым летам Людміла Сяменас прапанавала выдатную ідэю: не сядзець цудоўнымі летнімі вечарамі ў бібліятэцы, а праводзіць нашыя паседжаньні наўпрост у горадзе. І для пачатку было вырашана



зрабіць гэта ў выглядзе экскурсій. Што мы і зьдзейсьнілі. Некалькі тыдняў запар мы па чацьвяргах гулялі па Паставах і самі сабе распавядалі пра гісторыю гэтага горада. Прычым гэтыя экскурсіі мелі камандны характар, бо кожны ўзгадваў, што ведаў.

І апошняя з экскурсій, якую мы вырашылі правесьці, прысьвячалася пастаўскім яўрэям. Усё ж такі іх колькасьць у Паставах калісьці складала больш за палову ад усяго насельніцтва, а іх лёс тут у выніку аказаўся нават яшчэ горшы, чым у беларусаў. Таму варта было пра іх узгадаць асобна. Паколькі сярод усіх нас найбольшым знаўцам яўрэяў з'яўляецца Тамара Храпавіцкая, то менавіта яна і павяла нас гарадзкімі сьцежкамі па сьлядах пастаўскіх яўрэяў. І першы пункт, куды мы накіраваліся – гэта мяжа яўрэйскага гета, якое было створана ў Паставах нацыстамі падчас Другой сусьветнай вайны.

Пакуль туды йшлі, Тамара распавядала ўвогуле пра розныя элементы яўрэйскай культуры, якія засталіся да сёньняшняга часу ў пастаўскіх будынках. На рагу вуліцы П. Марозава мы зрабілі першы прыпынак. Тут мы ўзгадалі пра тое, як стваралася гета, як выглядала і якую плошчу займала. Наступным прыпынкам стаў помнік яўрэям на тэрыторыі самога гета.

Ля помніка мы ўзгадалі пра гісторыю яго з'яўленьня. Пра тое, што было на гэтым месцы раней і як менавіта гэты помнік быў пастаўлены. А таксама пра тое, чаму ён быў тут пастаўлены: на гэтым месцы былі пахаваныя тыя яўрэі, якія былі забітыя наўпрост у гета, калі нацысты пачалі аперацыю па зьнішчэньні






кожны з нас узгадаў некаторыя свае зьвесткі пра гэтую жудасную падзею. Пра тое, як мясцовыя жыхары ўспрынялі тое, што адбывалася на іх вачах у той час. Калі мы, урэшце, расказалі ўсё, што



ўсіх яўрэяў. І пасьля таго, як мы ўсё ўзгадалі, мы накіраваліся да нашага апошняга пункту – помніка масавага забойства ўсіх яўрэяў падчас той самай сумнавядомай аперацыі на тэрыторыі цяперашняга ДРБУ.

Тут Тамара распавяла пра апошнія дні існаваньня пастаўскага гета. Як яўрэяў прывозілі сюды і забівалі нацысцкія карнікі. І амаль



ведалі, то спачатку ўзьнікла думка наведацца і на старыя яўрэйскія могілкі ў Паставах, на якіх знойдзены пахаваньні аж з першай паловы 19 стагодзьдзя.

Але гэта запатрабавала б даволі шмат часу. А так як было даволі позна, то мы вырашылі пакуль што спыніцца на ўжо дасягнутым.

***Вадзім Шышко***

## Мясцовыя гісторыі

# ДУНІЛАВІЦКАЯ БАЛАДА

Вядомая беларуская журналістка Алена Ляўковіч напісала пра Дунілавіцкую баладу наступнае:

„...Над Дунілавічамі бушавала вясна. Быў канец красавіка. На могілках, як і ўсюды навокал, шумелі-калыхаліся ледзь кранутыя лістотай дрэвы. Тут сабраліся людзі з усяго павета. Хавалі дзяўчыну. Прыгожую, маладую. Яна ляжала ў труне ў бялюткім вясельным убранні. Яе забойца сядзеў на вялізнай сасне, што расла непадалёк, і глядзеў зверху на тую, якую кахаў так моцна, што здолеў забіць... Назаўтра ён прыйшоў на свежую магілу, прыставіў пісталет да скроні і націснуў на курок...

...Вялізны шэры помнік. На ім барэльеф Божай маці ў жалобе. Літары за 60 гадоў амаль не сцёрліся, таму надпіс на помніку можна прачытаць: „Аліна Самовіч. Жыла 26 гадоў. Забіта 28 красавіка 1936 года». Кім? І гэта было напісана на помніку, але нечая клапатлівая рука здзёрла-саскрэбла польскія літары, каб праз гады ніхто не зразумеў і не ўспомніў...»

ДУНІЛАВІЦКАЯ БАЛАДА

У аўторак уранні,
Як сонейка ўзышло,
Пайшоў Мар'ян к Аліне,
Сказаў ён ёй ўсё

- Аліна дарагая.
Ці знаеш, што зрабіў:
Сягоння на світанні.
Матулю я забіў.



Я знаю, дарагая,
Што мне цяпер рабіць.-
З таго ж пісталета
Хачу цябе забіць...
- Навошта нам страляцца,
Калі ахвота жыць?
Але:
Мар'ян не думаў доўга
І пісталет бярэ.
І проста без прыцэлу
Аліне ў грудзі б'е...
- А дзе гэты злачынец,
Што донечку забіў,
Гадочкі маладыя
Ў труну яе злажыў?
Вязлі хаваць Аліну
У чорнай у труне,
Мар'ян тады хаваўся
Між ветак на сасне.
Матулю толькі раніў,
Над мілаю грудок...
І на яе магіле
Націснуў на курок.

***Падрыхтаваў да друку Ігар Пракаповіч***

**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш
Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч
*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*
*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*
*Наклад 100 асобнікаў*